ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№19 —20 (2525—2526) 8 мая 1997 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

*ПАГЛЯДЗІМ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ*

## АПОШНІ ШТУРМ

Па-чалавечы зразумела: неасцярожна дакранацца да ваеннага мінулага, нават з высакароднымі мэтамі, — значыць прычыняць боль яго відавочцам. Занадта цяжкімі былі тыя гады Вялікай Айчыннай. Але ж нельга маўчаць, ігнаруючы ўсё новыя і новыя сведчанні і дакументы...

Калі-небудзь у будучыні Вялікую Айчынную вайну будуць апісваць холадна і абстрактна. Яе ацэнкі перастануць насіць грамадска-палітычны характар. Народная памяць плюс навуковы аналіз ачысцяць факты ад шалупіння міфаў.

За апошнія дзесяць гадоў мы даведаліся пра вайну больш, чым за ўсе папярэднія. Раскрываюцца архівы, зняты негалосныя (а то і галосныя) забароны на вывучэнне канкрэтных аперацый, напрыклад, катастроф пад Кіевам у 1941-м, пад Харкавам у 1942-м, цяжкіх баёў зімы 1943—1944 гадоў, аб Берлінскай аперацыі 1945-га года. Мы ўжо больш ведаем і аб заградатрадах, і аб СМЕРШЫ, і аб штрафных батальёнах. Высвятляецца, што публічна б'ючы — адзін "нямецкіх разбойнікаў", другі — "крывавых бальшавікоў", Сталін і Гітлер у коле сваіх гаварылі адзін пра аднаго вельмі паважна.

Але на шляху да праўды аб вайне яшчэ досыць перашкод. Многа нявывучанага, яшчэ больш скажонага. Жывыя людзі асабіста зацікаўлены ў тым, каб міфы жылі як мага даўжэй. Іншым проста цяжка расставацца са звыклымі стэрэатыпамі.

І ўсё роўна ад праўды нікуды не дзецца. Гісторыя рана ці позна ўсё расставіць на свае месцы...

Наступленне на Берлін пачалося 16 красавіка 1945 года. За тры дні раней савецкія войскі, што змагаліся на паўднёвым флангу фронту і незадоўга перад тым адбілі апошняе нямецкае контрнаступленне ў Венгрыі, уступілі ў Вену. У штурме германскай сталіцы, план якога

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ДЗЕНЬ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ



Сёння ў Беларусі, зрэшты, як і ва ўсім свеце, мала засталося тых, каго называюць пераможцамі. Час, адмераны вечнасцю таму пакаленню, на зыходзе. Але ў гісторыі, у нашай, прынамсі, гісторыі, застанецца Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гадоў і Вялікая Перамога, якая дасталася нам празмернымі высілкамі і нечуванымі ахвярамі. А пакуль яшчэ збіраюцца 9 Мая на сустрэчу ветэраны. Ахвотна частуюцца салдацкай кашай, якая ім здаецца амаль што салодкай у параўнанні з той — акопнай. Толькі ўспаміны не пазбыліся горычы.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ПАДАРУНАК АД СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

У канцы красавіка адбылася вечарына Сяргея Грахоўскага, прысвечаная 70-годдзю творчай дзейнасці паэта. Праходзіла яна ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. У зале сабраліся людзі, якія любяць творчасць Сяргея Грахоўскага, шануюць і захапляюцца самой асобай гэтага выдатнага чалавека.

Свой першы верш С. Грахоўскі надрукаваў у 1926 годзе, а першы зборнік яго паэзіі выйшаў у 1958 годзе і называўся "Дзень нараджэння". Бо гэта было другое нараджэнне пасля цяжкіх і пакутлівых гадоў зняволення і вымушанай творчай бяздзейнасці. У трыццаць гадоў, што праляглі паміж дзвюма гэтымі падзеямі, умясціліся праца на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, заканчэнне літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, работа на Беларускім радыё і амаль дваццаць гадоў у сталінскіх лагерах. Пасля рэабілітацыі ў 1956 годзе і вяртання да нармальнага жыцця з'явіліся дзесяткі паэтычных зборнікаў і кніг прозы пісьменніка. Сяргей Грахоўскі вядомы як выдатны перакладчык, які пераклаў на беларускую мову А. Пушкіна і А. Блока, Т. Шаўчэнку і Л. Украінку, У. Маякоўскага, М. Дудзіна, Р. Гамзатава і многіх іншых.



НА ЗДЫМКУ: Сяргей ГРАХОЎСКІ.
Фота Віктара СТАВЕРА.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## СУСТРЭЧЫ ПОМНЯЦЦА ДОЎГА

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АНАТОЛЯ ТЫЧЫНЫ*

*Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!*
*І людзі зведаюць аб прадзядах сваіх...*
М. БАГДАНОВІЧ.

Кожнаму з нас хочацца мець кнігу, якая б радавала і духоўна ўзбагачала не толькі займальным зместам, але і прывабным знешнім выглядам ды цікавымі малюнкамі. Такую задачу заўжды ставіў перад сабою вядомы мастак, даследчык кніжнай графікі, педагог Анатоль Тычына, з якім пашанцавала пазнаёміцца на пачатку 80-х гадоў. Першая сустрэча адбылася ў ягонай майстэрні-кватэры і адразу ж падказала тэму для невялікай партрэтнай нататкі "Ад чараў дзіўных крыніц", якая прысвячалася 85-м угодкам выдатнага творцы. З той пары даводзілася яшчэ не раз бачыцца з ім і ў гутарках закранаць розныя бакі навукова-даследчай і творчай працы, асабліва ягоным удзеле ў рабоце секцыі мастацтва Інстытута беларускай культуры — калыскі сучаснай Акадэміі навук.

Мяне цікавіла ўсё, найперш людзі — навуковыя работнікі, уражанні аб экспедыцыях у пошуках узораў народнага мастацтва, што выяўляюць характэрныя асаблівасці народа, яго погляды на акаляючы свет.

Мастак расказаў пра станенне кніжнай графікі ў нашым краі, якая мела тут багатыя традыцыі і была цесна звязана з развіццём старадаўняй беларускай пісьменнасці, а пачыналася з прац невядомых майстроў. Менавіта яны аздаблялі рукапісныя святыя пісанні прыгожымі застаўкамі і мініяцюрнымі рысункамі. Да прыкладу, Тураўскае евангелле і Супрасльскі рукапіс з'явіліся ў XI стагоддзі, Лаўрышаўскае, Мсціслаўскае і Аршанскае евангеллі — у XIV-м, а ў XVI бытавала ўжо шмат іншых. І што характэрна, па сваіх мастацкіх вартасцях яны не ўступалі тагачасным еўрапейскім узорам.

Унікальным рукапісным помнікам графічнага мастацтва на пергаменце стала Лаўрышаўскае евангелле з Наваградчыны, якое зберагаецца зараз у бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве. Каштоўнасць яго ў тым, што яно аздоблена шматкаляровымі мініяцюрамі ў адпаведнасці з кананічным тэкстам святога пісання, а таксама прыгожымі застаўкамі і канцоўкамі. Загалоўныя літары вельмі ўдала спалучаюцца з матывамі фауны і флоры гэтага краю.

— Для многіх аматараў малой графікі сярэднявечча ды і пазней помнік гэты змог стацца хрэстаматыйным даведнікам у іх працы над падрыхтоўкай кнігі і кніжных знакаў, якім і я прысвяціў шмат увагі, —

(Працяг на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*1-е МАЯ Ў МІНСКУ*

**Сёлетні Першамай адзначаны ў сталіцы Беларусі мітынгам на плошчы Незалежнасці. Сюды прыйшлі калоны пад рознымі сцягамі. Афіцыйныя прафсаюзы, якія заклапочаны сацыяльным станам працоўных, — арганізавана і дысцыплінавана, як у тыя часы. І пад той жа сімволікай (першы здымак). Сацыял-дэмакраты і ўсе, хто да іх прымкнуў, — са сваімі лозунгамі, сцягамі. На плошчы Незалежнасці апазіцыя не захацела прымаць удзел у мітынгу, і калона павярнула назад.**






*ДЗЕНЬ МУЖНАСЦІ І СМУТКУ*

**26 красавіка Беларусь адзначыла 11-ю гадавіну чарнобыльскай катастрофы. У сталіцы адбыліся ў гэты дзень мітынг-рэквіем і традыцыйнае шэсце "Чарнобыльскі шлях".**

**Ліквідатары аварыі, перасяленцы з забруджаных раёнаў, людзі, якія страцілі здароўе ў выніку чарнобыльскай бяды, сабраліся ў мінскім парку Дружбы народаў, каб ускласці кветкі да памятнага знака і ўшанаваць тых, чые жыцці забраў Чарнобыль. Было прапанавана, каб вышэйшыя ўлады дзяржавы афіцыйна абвясцілі 26 красавіка Днём смутку і мужнасці.**

**Другое, больш масавае мерапрыемства, адбылося таксама ў Мінску. "Чарнобыльскі шлях-97", у якім прынялі ўдзел, па афіцыйных заявах, 5 тысяч, а па падліках БНФ, — 25 тысяч удзельнікаў і якога чакалі ўсе з вялікай трывогай, прайшоў спакойна, мірна і арганізавана. Шэсце рушыла ад Акадэміі навук па праспекце Скарыны да Палаца спорту на праспекце Машэрава, дзе адбыўся мітынг апазіцыі. Некалькіх хлопцаў, якія пачалі з калоны кідаць бутэлькамі па вокнах, затрымалі самі ж дружыннікі БНФ і перадалі міліцыі.**

**Мітынгі, прысвечаныя 11-й гадавіне чарнобыльскай трагедыі, адбыліся ў Брэсце, Пінску, Гомелі, Брагіне, Салігорску. Яны сабралі ад 50 да 500 чалавек.**



**НА ЗДЫМКУ: "Чарнобыльскі шлях-97". Шэсце апазіцыі па вуліцах Мінска.**

*"Сістэма пенсіённага забеспячэння цяпер з'яўляецца адной з самых вострых сацыяльна-эканамічных праблем дзяржавы. Памеры пенсій больш як паловы пенсіянераў (у Беларусі сёння 2,5 мільёна пенсіянераў) рэспублікі не дасягаюць, на жаль, нават рысы малазабяспечанасці, устаноўленай по міжнародных нарматывах на ўзроўні 60 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту. Нізкі ўзровень пенсіённага забеспячэння абумоўлены невысокай аплатай працы, бо асноўным фактарам, які вызначае памер пенсіі, і асноўнай крыніцай фарміравання Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва з'яўляецца заработная плата працуючай часткі насельніцтва.*

*Праблемы пенсіённага забеспячэння ў значнай ступені абумоўлены звужэннем яго фінансавай базы. Удзельная вага аплаты працы рабочых, служачых і калгаснікаў у грашовых даходах насельніцтва знізілася з 73,1 працэнта ў 1990 годзе да 50 працэнтаў у 1996-м. Адначасова павышаецца доля сродкаў, якія прадастаўляюцца работнікам у выглядзе выплат сацыяльнага характару і на якія страхавыя ўзносы не налічваюцца.*

*Пры гэтым трэба ўлічыць, што нацыя "старэе". А гэта значыць, што пры ўзрастаючай колькасці атрымальнікаў пенсій колькасць занятых у эканоміцы пастаянна змяншаецца. Так, за перыяд з 1990 па 1996 год колькасць пенсіянераў павялічылася на 12,4 працэнта, а колькасць занятых у эканоміцы зменшылася на 17,8 працэнта. Суадносіны працуючых і пенсіянераў за гэты ж перыяд зменшыліся з 2,2 : 1 да 1,6 : 1. Неспрыяльныя суадносіны колькасці плацельшчыкаў страхавых узносаў і пенсіянераў, колькасць якіх на тысячу чалавек насельніцтва павялічылася з 233 у 1990 годзе да 261 у 1996-м, абумоўліваюць шэрагам асаблівасцей пенсіённай сістэмы. Узнікшая ў іншых сацыяльна-эканамічных умовах, яна ў многім з'яўляецца даволі марнатраўнай і відавочна адстае ад магчымасцей грамадства. Адносна нізкі пенсіённы ўзрост — 60 гадоў для мужчын і 55 — для жанчын; шматлікія льготы і прывілеі для асобных катэгорый грамадзян адносна ўмоў выхаду на пенсію да дасягнення агульнаўстаноўленага пенсіённага ўзросту; магчымасць атрымання поўнай пенсіі пры працягу працоўнай дзейнасці, устаноўленне льготнага парадку налічэння стажу; уключэнне ў стаж разам з работай іншых перыядаў і іншае цягнуць пенсіённую сістэму да ўраўняльнага размеркавання, а па сутнасці надаюць ёй рысы дабрачыннасці".*

*(З інтэрв'ю міністра сацыяльнай абароны Беларусі Вольгі ДАРГЕЛЬ карэспандэнту Інтэрфакса).*

*КУПАЛ ВЯНЧАЕ ХРАМ*



**У парку Дружбы, што знаходзіцца на перасячэнні мінскіх вуліц Арлоўскай і Карастаянавай, узводзіцца праваслаўная капліца ў памяць ахвяр чарнобыльскай катастрофы. Напярэдадні адзінаццатай гадавіны трагічных падзей на капліцы былі ўстаноўлены залачоны купал і крыж.**

**НА ЗДЫМКУ: у час устаноўкі крыжа на купал капліцы.**

*БЕЛАРУСКІЯ ПАЛЯРНІКІ*

## ПЕРАХОД — ПРАЗ ГОД

**Недалёка ад Югорскага паўвострава завяршыўся сумесны маршрут удзельнікаў першай беларускай арктычнай экспедыцыі і групы расійскіх лыжнікаў.**

**Адпрацаваўшы тэхніку і практыку перамяшчэння па лядовых таросах Карскага мора, расійскія палярнікі сваё арктычнае падарожжа закончылі. Нашы ж суайчыннікі маюць намер прадоўжыць рух па раней распрацаванаму плану.**

**Як вынікае з паведамлення, што паступіла ў Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БелТА), якое ажыццяўляе інфармацыйную падтрымку першай беларускай арктычнай экспедыцыі, бліжэйшая задача нашых палярнікаў — выпрабаванне тэхнікі каля астравоў у акваторыі Карскага і Баранцава мораў. Пры гэтым будуць дэталёва вывучацца магчымасці беларускіх снегаходаў, а таксама праводзіцца ўлік неабходных тэхнічных дапрацовак, што дапаможа ў далейшым як след падрыхтавацца да першай трансарктычнай экспедыцыі беларускіх палярнікаў.**

**Пераход праз паўночны край зямлі беларускія палярнікі маюць намер зрабіць сумесна з расіянамі ў наступным годзе. А цяпер члены экспедыцыі вывучаюць прыроду каля вострава Вайгач.**

*ГОРКАЯ СТАТЫСТЫКА*

## ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

**Паводле даных спецыялістаў, 80—90 працэнтам ліквідатараў патрабуецца псіхічная і псіхатэрапеўтычная дапамога. У апошні час павялічылася (у параўнанні з дачарнобыльскім 1985 годам) смяротнасць сярод жыхароў Беларусі: ад злаякасных новаўтварэнняў і інфаркту міякарда — на трэць, ад хвароб эндакрыннай сістэмы — у 2,5 раза, ад цукровага дыябету — у 2,9...**

**У зоне павышанай радыяцыі зараз жыве каля 2 мільёнаў нашых суайчыннікаў, чацвёртая частка з іх — дзеці. Там знаходзіцца 811 дзіцячых садоў, 911 школ, 80 ПТВ і тэхнікумаў.**

*ВЕЛІКОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ*



**Вялікдзень становіцца ці не найгалоўнейшым святам у Беларусі. Урачыста, светла і спакойна адзначалі яго праваслаўныя хрысціяне нашай дзяржавы. У дзень Уваскрэсення Хрыстова ў Свята-Духавым кафедральным саборы адбылося традыцыйнае асвячэнне пасхальных кулічоў, яек і інш. І так было па ўсім нашым краі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час асвячэння.**

## ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА





**Чатыры аўтамашыны з гуманітарнай дапамогай прыбылі з далёкай Цюрынгіі ў Брэст. Яны даставілі больш за шэсць тон скрыняў і пасылак з адзеннем, медыкаментамі, пратэзамі для інвалідаў і прадуктамі, прызначанымі для арганізацыі "Дзеці ў бядзе" і Кобрынскага дзіцячага дому. Усё гэта клапатліва збіралася жыхарамі нямецкага горада Грайца пры садзейнічанні гарадскога сацыяльнага ведамства, таварыства Чырвонага Крыжа і іншых арганізацый. Не першы раз вязе і размяркоўвае гуманітарную дапамогу па гарадах і вёсках Брэстчыны група энтузіястаў на чале з выкладчыкам рускай мовы Валянцінай Грушвіц. На гэты раз караван накіраваўся ў Кобрын.**

**НА ЗДЫМКАХ: аўтамашыны з гуманітарнай дапамогай прыбылі ў Кобрынскі дзіцячы дом; Валянціна ГРУШВІЦ са сваімі калегамі ў Кобрынскім дзіцячым доме.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# АПОШНІ ШТУРМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

быў зацверджаны 1 красавіка на вузкай нарадзе ў Сталіна, удзельнічалі арміі трох франтоў: 1-га Беларускага, які пад камандаваннем Г. Жукава займаў цэнтральны ўчастак паласы наступлення, 2-га Беларускага пад камандаваннем К. Ракасоўскага, што наступаў больш на поўнач, і 1-га Украінскага, якім камандаваў І. Конеў. Іх падштурхоўвала неабходнасць спяшацца, каб адным ударам адсячы вузел апошніх палітычных камбінацый, што задумваліся немцамі. Наступленне пачалося яшчэ да таго, як арміі Ракасоўскага, якія толькі што завяршылі баі ў Памераніі, паспелі зрабіць перагрупоўку і падрыхтавацца да аперацыі. Спачатку Сталін хацеў даверыць задачу ўзяцця Берліна аднаму Жукаву, але некаторыя военачальнікі пярэчылі, і ён пакінуў адкрытай магчымасць таго, што танкавыя арміі Конева пры спрыяльных акалічнасцях таксама павернуць на поўнач для нанясення ўдару па Берліну з паўднёвага і паўднёва-заходняга напрамкаў.

Кіраўніцтва аперацыяй па авалоданню Берлінам прадстаўляла для Жукава афіцыйнае прызнанне яго першынства сярод выдатных савецкіх палкаводцаў. Бітва, аднак, мала што дабавіла да яго ваеннай славы. Гэта была, па яго ўласнаму прызнанню, "адна з самых цяжкіх аперацый другой сусветнай вайны". Пад Берлінам аганізуючая германская армія супраціўлялася з безаглядннай упартасцю. З канца студзеня, калі савецкія войскі выйшлі на Одэр, у немцаў быў час замацаваць подступы да горада. Жукаў пачаў штурм глыбокай ноччу, пры святле пражэктараў. Але эфект нечаканасці быў адносным. За Одэрам яго дывізіі наткнуліся на магутныя ўмацаванні Зяелаўскіх вышынь, што прыкрывалі сталіцу; пераадолець гэтую перашкоду ім удалося толькі на трэці дзень і цаной вялікіх страт.

Кіраўніцтва аперацыяй з боку Жукава потым стала прадметам суровай крытыкі некаторых праслаўленых генералаў, што былі тады ў яго ў падпарадкаванні. Магчыма, у імкненні хутчэй дабіцца перамогі ён сапраўды дапусціў празмернае скапленне танкавых і стралковых дывізій у вузкай паласе наступлення, з-за чаго войскі, перашкаджаючы адно аднаму, рухаліся марудней, чым маглі б. Больш паспяховым было наступленне Конева, якому не даводзілася штурмаваць горад у лоб. Пераадолеўшы раку Нэйсе, яго фронт змог прарваць лінію варожай абароны і ўвесці ў прарыў танкавыя арміі генералаў Рыбалкі і Лелюшэнкі, якія ў сваю чаргу атрымалі загад Сталіна наступаць на Берлін. 20—21 красавіка войскі Конева і Жукава амаль адначасова дасягнулі ўскраін германскай сталіцы.

**З аператыўнай зводкі Савінфармбюро за 30 красавіка 1945 года:** "Войскі 1-га Беларускага фронту, працягваючы весці вулічныя баі ў цэнтры Берліна, авалодалі... Войскі 1-га Украінскага фронту працягвалі весці вулічныя баі ў паўднёва-заходняй частцы Берліна і занялі шэраг кварталаў..." Здаецца, усё ў парадку, Берлін узяты ў шчыльнае кальцо, нават у ваенных спецыялістаў, не гаворачы ўжо аб цывільных асобах, не выклікала сумнення: усё ідзе па плану.

Між тым два вядомыя маршалы, загадзя адкінуўшы планы, наладзілі вар'яцкую гонку на Берлін, імкнучыся абагнаць адзін аднаго. Гаворачы мовай нядаўняга часу, яны наладзілі сацыялістычнае спаборніцтва.

З пачаткам Берлінскай аперацыі 1-шы Беларускі фронт паімчаўся наперад, апярэджваючы "графік". Пры гэтым непазбежна несучы вялікія страты, асабліва, пакідаючы горы трупаў ля Зяелаўскіх вышынь.

Не адставаў і 1-шы Украінскі фронт, які ўжо 18 красавіка з ходу фарсіраваў раку Шпрэе. **А яшчэ праз дзень, 20 красавіка, маршал Конеў выдае загад камандуючым 3-й і 4-й гвардзейскімі танкавымі арміямі:** "Войскі маршала Жукава за 10 кіламетраў ад усходняй ускраіны Берліна. Загадваю ноччу ўварвацца ў Берлін першымі. Выкананне данесці".

У гэты ж дзень, 20 красавіка, маршал Жукаў выдае свой загад — таксама танкістам: **камандуючаму 2-й гвардзейскай танкавай арміяй:** "Пашліце ад кожнага корпуса па адной лепшай брыгадзе ў Берлін і пастаўце ім задачу: не пазней чым 4 гадзіны раніцы 21 красавіка любой цаной прарвацца на ўскраіну Берліна і неадкладна данесці для даклада т. Сталіну і аб'явы ў прэсе".

Цану сацыялістычнага спаборніцтва ў мірны час мы ведаем: недакручаныя гайкі і балты. У ваенны час — людскія ахвяры. Масавыя.

У Берліне, каб, відаць, дагадзіць абодвум маршалам, правялі размежавальную лінію паміж войскамі франтоў па цэнтру Берліна: дасюль наступаць, а далей — не. Але танкісты Конева ўварваліся ў тыл танкістам Жукава. Неразбярыха, новыя ахвяры.

На гонар Коневу, ён апомніўся першым і прапанаваў Жукаву прымаць сумесныя меры. **Жукаў замест адказу даў тэлеграму Сталіну:** афіцыйна — даклад, па сутнасці — нешта сярэдняе паміж скаргай і даносам: "Наступленне часцей Конева па тылах 8 гв. А і 1 гв. ТА стварала блытаніну і перамяшчэнне часцей, што крайне ўскладніла кіраўніцтва боем. Далейшы іх рух у гэтым напрамку можа прывесці да яшчэ большага перамешвання і да цяжкасцей у кіраванні".

Танкісты Рыбалкі вымушаны былі павярнуць ад цэнтра на захад. Цэнтр жа Берліна дастаўся цяпер Жукаву. І галоўнае — рэйхстаг.

Іншыя маштабы — іншыя чыны. Бралі Берлін — спаборнічалі камандуючыя арміямі, бралі рэйхстаг — спаборнічалі камандзіры дывізій. З двух бакоў да сцен рэйхстага падышлі дзве дывізіі 1-га Беларускага фронту — 150-я стралковая пад камандаваннем генерал-маёра В. Шацілава і 171-я стралковая пад камандаваннем палкоўніка А. Нягоды. У кожнай дывізіі — па свайму Сцягу Перамогі з дзевяці (па колькасці дывізій).

30 красавіка каля трох дня палкоўнік Зінчанка (з дывізіі Шацілава) паведаміў камбату Няўстроеву, што ёсць сакрэтны загад маршала Жукава, у якім аб'яўляецца падзяка войскам, што ўзнялі Сцяг Перамогі. Абодва разгубіліся: рэйхстаг не ўзяты, сцяг не ўзняты, а падзяка ўжо аб'яўлена... Каб дасягнуць рэйхстага, трэба было пераадолець Каралеўскую плошчу, пакрытую заваламі, барыкадамі, надаўбенямі. Плошчу перасякаў канал, за якім — траншэі, дзоты, зенiткі, пастаўленыя на прамую наводку. Пад прыцэлам быў кожны метр плошчы. З замураваных вокнаў самога рэйхстага тарчалі кулямётныя ствалы.

Калі з'явіўся загад Жукава, нашы салдаты яшчэ толькі зрабілі першую спробу выбрацца на плошчу і тут жа залеглі, не паднімаючы галавы, прыціснутыя шквальным агнём. Самае дзіўнае, што ў сакрэтным загадзе маршала, акрамя глыбокай падзякі войскам свайго фронту, апісваліся і падрабязнасці ўзяцця рэйхстага: "Праціўнік у раёне рэйхстага аказваў жорсткае супраціўленне нашым наступаючым войскам, ператварыўшы кожны будынак, лесвіцу, пакой, падвал у апорныя пункты і ачагі абароны. Баі ўнутры галоўнага будынка рэйхстага пераходзілі ў неаднаразовыя рукапашныя сутычкі. Войскі 3-й ударнай арміі зламалі супраціўленне ворага, занялі галоўны будынак рэйхстага і сёння, 30.04.45 года, у 14.25, узнялі на ім наш савецкі флаг".

Савінфармбюро пайшло на яшчэ большыя "прыпіскі", паведаміўшы 30 красавіка: "Сёння ў чатырнаццаць гадзін савецкія байцы авалодалі будынкам нямецкага рэйхстага і ўзнялі на ім Сцяг Перамогі".

Прыціснутыя агнём да зямлі, салдаты працягвалі ляжаць на плошчы. Камандзір дывізіі запатрабаваў ад палкоўніка Зінчанкі: "Калі няма нашых людзей у рэйхстагу і не ўзняты там сцяг, то прыміце ўсе меры любой цаной устанавіць сцяг ці флажок хаця б на калоне параднага пад'езда. Любой цаной!"

Стала ясна: камандзір дывізіі Шацілаў, баючыся, каб другі камдзіў — Нягода не далажыў раней за яго аб узяцці рэйхстага, адрапартаваў аб устанаўленні Сцяга Перамогі над рэйхстагам камандзіру 79-га стралковага корпуса генерал-маёру Пераверткіну, той — камандуючаму 3-й ударнай арміяй генерал-палкоўніку Кузняцову, а той — Жукаву.

Зноў — любой цаной. Ні аб якім Сцягу Перамогі размовы, вядома, ісці не магло. Адзіночкі-добраахвотнікі, самыя адчайныя, разарваўшы нямецкія пярыны з чырвонага ціку, рынуліся з гэтымі флажкамі да рэйхстага, каб устанавіць іх дзе заўгодна — на калоне, на фасадзе, на рагу будынка, у акне. Як робіцца ва ўсіх войнах? Спачатку авалодваюць, потым устанаўліваюць. Тут — усё наадварот. Адчайныя адзіночкі-добраахвотнікі загінулі. Усе загінулі.

Батальён Няўстроева пайшоў на рашучы штурм. Толькі з чацвёртай спробы ўварваліся ў рэйхстаг...

Колькі ж чалавек загінула ў час штурму рэйхстага, лічачы і тых многіх флаганосцаў спачатку, потым — чатыры штурмы і, нарэшце, кровапралітныя баі ўвесь дзень у самім рэйхстагу, калі гітлераўцы 1 мая вырваліся з падвалаў і амаль знішчылі батальён Няўстроева? Колькі? Афіцыйнай статыстыкі страт у баях за рэйхстаг не існуе. Неафіцыйная — 63 чалавекі. Ну што ж, гэта ж толькі першая лічба страт за рэйхстаг, такая ж цынічна нізкая, як першая лічба агульных страт пры Сталіне — сем мільёнаў.

Вернемся да статыстыкі. Берлінская аперацыя аказалася адной з самых кровапралітных, ахвярных за ўсю вайну. Агульная колькасць страт, забітыя і параненыя — 352 475 чалавек. З іх: беззваротныя страты, гэта значыць забітыя — 78 291 чалавек; "санітарныя страты" — раненыя, кантужаныя, абпаленыя і г. д. — 274 184 чалавекі. Колькі з іх выжылі, ці памерлі, ці сталі інвалідамі — невядома. Да гэтых лічбаў трэба дадаць і страты барацьбы за Берлін дзвюх польскіх армій: беззваротныя — 2 825 і "санітарныя" — 6 067 чалавек.

Горка і крыўдна. Чатыры гады вайны былі ўжо ззаду, і Берлін быў асуджаны на гібель, войскі саюзнікаў не збіраліся яго штурмаваць, ён быў наш — у любым выпадку.

Зусім цынічна — акругленне страт. А ўсе ж дзесяцігоддзі мы іх акругялі да мільёна! Пры Сталіне было 7 мільёнаў загінуўшых, потым — 20 мільёнаў, цяпер — 27 мільёнаў. Апошнюю лічбу назвалі зусім нядаўна. Між тым, калі больш дакладна, агульныя страты ў вайне складаюць 27 600 000 чалавек. Таксама акруглілі, але ўжо да соцень тысяч.

Па выніках падлікаў Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расіі, за гады Вялікай Айчыннай вайны агульныя беззваротныя страты (забіта, прапала без вестак, трапіла ў палон, памерла ад ран, хвароб і ў выніку няшчасных выпадкаў) Савецкіх Узброеных Сіл разам з пагранічнымі і ўнутранымі войскамі склалі 11 мільёнаў 444 тысячы 100 чалавек. Пры гэтым армія і флот страцілі 11 мільёнаў 285 тысяч чалавек, унутраныя войскі — 97 тысяч 700 чалавек, пагранічныя войскі і органы дзяржбяспекі — 61 тысячу 400 чалавек.

Пры структурным падліку высветлілася і яшчэ адна дэталь: з агульнай колькасці ўлічаных у ходзе вайны беззваротных страт трэба выключыць 1 мільён 836 тысяч тых, хто вярнуўся з палону, а таксама 939,7 тысячы чалавек, якія значыліся ў пачатку вайны прапаўшымі без вестак і якія аб'явіліся на вызваленай ад акупацыі тэрыторыі пазней. З улікам гэтага ўдакладнення агульныя страты Узброеных Сіл СССР склалі 9 мільёнаў 168 тысяч 400 чалавек.

Сюды ўваходзяць і тыя, хто загінуў, перайшоўшы на бок захопнікаў: здрадзілі Радзіме і служылі ў нямецкай арміі, у жандармерыі, у паліцыі, у войсках СС і іншых карных органах каля 800 000 савецкіх ваеннаслужачых. З іх у самых элітных карных войсках СС — 140 000 савецкіх салдат і афіцэраў.

Астатнія страты — звыш 17 мільёнаў — прыпалі на грамадзянскае насельніцтва акупіраваных і прыфрантавых тэрыторый. З іх каля 8 мільёнаў загінула на акупіраваных і прыфрантавых тэрыторыях ад голаду, бамбёжак, артабстрэлаў, цяжкіх умоў жыцця, непасільнай працы. Яшчэ больш за 2 мільёны загінула на прымусовых работах у Германіі. Колькасць наўмысна знішчаных у выніку гітлераўскай палітыкі генацыду (расстраляных, загінуўшых у гета, турмах, канцлагерах) склала больш за 7 мільёнаў чалавек. Такім чынам, прамыя і ўскосныя страты насельніцтва СССР у гады Вялікай Айчыннай вайны, зыходзячы з наяўных даных, можна ацаніць у 48—50 мільёнаў чалавек — вось сапраўдная цана Вялікай Перамогі.

Але з усіх шматлікіх разнавіднасцей страт — ваенных і грамадзянскіх, на перадавой, у тыле, у палоне — мы ніколі не даведаемся, можа быць, галоўных нашых ахвяр — якіх можна было пазбегнуць. Колькі загінула іх, хто не павінен быў загінуць? Гэтымі падлікамі не займаецца ніхто, і гэтага мы ніколі не даведаемся.

Акрамя звычайнага пралiку, галавацяпства ці самадурства камандзіраў ці рускага "авось", былі і чыста савецкія, сацыялістычныя прычыны неапраўданых масавых ахвяр — як раней жылі, так і ваявалі. Кіеў вызвалялі да абедзенага стала: да чарговай гадавіны рэвалюцыі. Так, справіліся, вызвалілі 6 лістапада 1943 года. Але якой цаной! Тысячы маракоў загінулі ў чарнаморскіх дэсантах, з якіх асобай трагічнай славай вядомы Еўпатарыйскі і Феадасійскі...

Можна зразумець пралікі ў пачатку вайны, калі мы яшчэ не навучыліся перамагаць уменнем і Айчына стаяла на масавай народнай ахвярнасці, масавым гібельным гераізме. Але цяпер, у канцы вайны, калі наперадзе быў толькі Берлін і рэйхстаг!

...У той страшнай вайне саюзнікі адмовіліся ад думкі штурмаваць сталіцу Германіі: генерал О. Брэдлі вылічыў, што штурм Берліна будзе каштаваць англа-амерыканскім салдатам — 100 000 жыццяў. На такія ахвяры яны пайсці не маглі.

Зразумела, адмаўляцца ад камфортных гістарычных штампаў вельмі няпроста. Занадта многа замешана асабістых лёсаў, успамінаў, болю страт. На многім ляжыць незабыўная пячаць сакральнасці: мільёны на смерць стаялі за бацькоўскі дом, за родных, за Радзіму; знявечаная зямля, небывалыя разбурэнні, амаль 27 мільёнаў загінуўшых... Любыя негатыўныя інтэрпрэтацыі гэтых падзей — нават цалкам аргументаваныя — могуць закрануць і закранаюць вельмі асабістае, памяць індывідуальную, памяць гістарычную.

Аднак нават пры ўсім гэтым мы не можам, не павінны і проста не маем права заставацца ў палоне звычайнай свядомасці, не зацікаўленай у пошуку гістарычнай праўды.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫЯ ЎСТАНОВЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ БССР НА АБШАРАХ КАЛІНІНСКАЙ АКРУГІ 1924 — 1927 ГАДОЎ

# СТАЛА ЖЫВУЦЬ НА НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

| 1924/25 нав. год | | | | | 1925/26 нав. год | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік школ | Камплектаў | Груп | Вучняў | Настаўнікаў | Лік школ | Камплектаў | Груп | Вучняў | Настаўнікаў |
| 5 | 26 | 20 | 718 | 18 | 10 | 1/8 | 34 | 1279 | 32* |

Яўрэйскія школы знаходзіліся:

а) у Бялынкавіцкім раёне — Марцінаўская школа, пачала працу з 1 верасня 1926 года. З 26 дзяцей школьнага ўзросту школу наведвалі 19;

б) у Касцюковіцкім раёне — Саматэвіцкая школа (звестак пра яе амаль што няма). Яўрэйская двухкамплектная школа ў Касцюковічах. Працавала ў ёй 2 настаўнікі. Адкрылася ў 1925 годзе. У 1925/26 навучальным годзе абучаласяа 56 вучняў, у 1926/27 — 62 вучні;

в) у Крычаўскім раёне — Крычаўская двухкамплектная яўрэйская школа. У 1925/26 навучальным годзе ў ёй навучалася 26 вучняў;

г) у Мілаславіцкім, раёне — Мілаславіцкая школа. Распачала сваю дзейнасць 2.IX.1926 года. Навучалася 33 вучні, была забяспечана падручнікамі на яўрэйскай мове на 100 працэнтаў. Размяшчалася ў будынку беларускай сямігодкі;

д) у Мсціслаўскім раёне — Шамаўская аднакамплектная школа, працавала ў 1925/26 навучальным годзе. Мелася ў студзені 1927 года 46 вучняў. Падручнікамі на яўрэйскай мове была забяспечана на 60 працэнтаў. У ёй працавала 1 настаўніца;

е) у Раснянскім раёне — Раснянская яўрэйская двухкамплектная школа. Распачала працу з 1925 года. У ёй у студзені 1927 года мелася 56 вучняў, 2 настаўнікі. Падручнікамі была забяспечана на 80 працэнтаў;

ж) у Хоцімскім раёне — Хоцімская яўрэйская школа-сямігодка;

з) у Клімавіцкім раёне — Клімавіцкая яўрэйская школа-сямігодка.

Акрамя звычайных агульнаадукацыйных школ былі і яўрэйскія вячэрнія школы рабочай (сялянскай) моладзі:

Краснапольская, Касцюковіцкая, Раснянская яўрэйская школа сялянскай моладзі, Мілаславіцкая, Мсціслаўская, Чэрыкаўская, Клімавіцкая, Крычаўская.

У акрузе было шэсць яўрэйскіх пунктаў па ліквідацыі непісьменнасці (1926 год). Сярод іх:

у Мілаславіцкім раёне, у Крычаве, у вёсцы Маляцічы Крычаўскага раёна.

Акрамя школ, меліся яўрэйскія дзіцячыя дамы і садзікі, нацыянальныя пляцоўкі пры дзіцячых гарадках, якія працавалі ў летні перыяд для дзяцей дашкольнага ўзросту.

Дзіцячы дом быў у Чэрыкаве, яўрэйская група пры дзіцячым садзе была ў Клімавічах (27 дзяцей); у 1927 годзе планаваліся (але скасаванне акругі перашкодзіла) яўрэйскія пляцоўкі пры беларускіх у Хоцімску і Краснаполлі.

Яўрэйскія хаты-чытальні знаходзіліся ў Касцюковічах, Мілаславічах, Хоцімску, Шамаве Мсціслаўскага раёна, Расне, Краснаполлі, Крычаве, Маляцічах Крычаўскага раёна, Саматэвічах Касцюковіцкага раёна, Антонаўцы Крычаўскага раёна.

Існавала ў Калінінскай акрузе 19 яўрэйскіх бібліятэк пры школах, хатах-чытальнях, клубах і 5 яўрэйскіх аддзелаў пры агульных бібліятэках; 9 яўрэйскіх клубаў пры таварыствах саматужнікаў, 18 яўрэйскіх гурткоў, з іх 2 палітычныя, 1 прафесійны, 1 па вывучэнню яўрэйскай літаратуры і мовы ў Хоцімску пры прафклубе, 9 драматычных (у Краснаполлі, Мілаславічах, вёсцы Родні Клімавіцкага раёна, два ў Крычаўскім раёне, у Чэрыкаве і г. д.), гурткі працавалі не толькі пры яўрэйскіх культурна-асветных установах, але і пры прафсаюзных клубах (Клімавічы, Чэрыкаў, Хоцімск). Дарэчы, гаворачы пра драмгурткі, можна прывесці такі факт: за 1925 год у Калінінскай акрузе было пастаўлена 1 376 спектакляў на беларускай мове, 500 па-руску і 262 на яўрэйскай мове.

**Наступная група насельніцтва Калінінскай акругі — палякі.**

Праца па культурнаму абслугоўванню палякаў на тэрыторыі акругі распачалася яшчэ ў маі 1924 года, але насіла выпадковы характар. Наогул, напачатку лічылася, што на абшарах акругі пражывала 10 000 палякаў. Гэтую лічбу ўзялі згодна з дарэвалюцыйнымі данымі аб колькасці рыма-католікаў. Прычыну слабай арганізацыі працы бачылі ў адсутнасці неабходных кадраў і некампактным пражыванні палякаў. У сувязі з гэтым на працягу 1924 года двойчы скасоўвалася і зноў ўводзілася пры акружкоме КП(б)Б пасада інструктара па польпрацы. У рэшце рэшт у 1925 годзе ўсё ўсталявалася. Пры акружкоме было сфарміравана польбюро, у якое ўваходзілі, акрамя інструктара, 3 члены і ўпаўнаважаныя па польпрацы ў раёнах (яны былі ў Раснянскім, Мсціслаўскім, Клімавіцкім, Крычаўскім, Касцюковіцкім). Была ўдакладнена лічба колькасці палякаў, не болей 2 000, улічваючы беларусаў-католікаў. Прычым лічбу апошніх увесь час павялічвалі. Бо сярод партыйных органаў і часткі насельніцтва панавала думка, што палякі — гэта былыя паны-памешчыкі ці "заградавая" шляхта, таму іх абавязкова трэба выселіць за межы Беларусі, да іх ставіліся варожа. На тэрыторыі акругі найбольш палякаў пражывала ў Мсціслаўскім, Раснянскім, Крычаўскім, Клімавіцкім, Касцюковіцкім, Чэрыкаўскім раёнах. Цэнтрамі кампактнага пражывання палякаў былі Татаршчынскі сельсавет Мсціслаўскага раёна і вёска Пячкаўка Раснянскага раёна.




Сталая праца сярод польскага насельніцтва вялася толькі ў Крычаўскім і Мсціслаўскім раёнах. Ды і то ў большасці яна насіла кампанейскі характар і гуртавалася вакол беларуска-польскіх школ. У гэтых раёнах правялі 5 раённых канферэнцый па-польску.

Польскія школы на абшарах акругі існавалі яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі і былі зліквідаваны ў 1920 годзе, бо ўтрымліваліся на сродкі ўцекачоў-палякаў і былі зліквідаваны з іх уходам. На пачатку 1924/25 навучальнага года ў Мсціслаўскім раёне была ўтворана польская школа ў вёсцы Жарэціна, але яе ў жніўні 1925 года перавялі на беларускую мову навучання з дадатковым выкладаннем у ёй польскай мовы як прадмета. У школе навучалася 62 вучні. Існавала да 1927 года.

Польска-беларускія школы былі таксама ў вёсцы Пячкоўка Раснянскага раёна (праіснавала каля года і была пераўтворана ў беларускую), у вёсках Дарлівое Крычаўскага раёна, Жалезніца Краснапольскага раёна, Парфёнава Мсціслаўскага раёна. Апошняя праіснавала каля года. У архіўных дакументах адзначана, што да 50 працэнтаў навучэнцаў школ былі беларусы-католікі, але яны вельмі жадалі вывучаць польскую мову. Напрыклад, у Дарлівоўскую школу дзеці хадзілі з далёкіх вёсак (напрыклад, з вёскі Макаўе), нягледзячы на тое, што побач былі беларускія школы. Маецца запіс, што пры Крычаўскім абшарніку нелегальна ў 1926 годзе існавала польская школа.

Ад насельніцтва паступалі заявы са зваротамі аб адкрыцці новых польскіх школ, але на іх не звярталі ўвагу, бо акружное польбюро КП(б)Б "трымала лінію, каб у новыя школы польмову не ўводзіць з саабражэнняў, што шмат польскіх вёсак ужо маюць школы з польмовай".

На тэрыторыі акругі існавала 9 польскіх бібліятэк ці аддзелаў пры агульных бібліятэках: у Клімавічах, Крычаве, Расна, у вёсцы Парфёнава пры ячэйцы ЛКСМБ, Мсціслаўі, пры школах у Пячкоўцы, Жарэціне, Дарлівое, Жалезніцы; 2 лікпункты ў Мсціслаўскім раёне: Жарэціна, Шчавялёўшчына; польскі клуб пры агульнапартыйным клубе ў Клімавічах; хата-чытальня ў вёсцы Пячкоўка; існавлі польскія куткі ў вёсцы Макаўе Крычаўскага раёна, Саколічы і Глупікі Крычаўскага раёна, у Мсціслаўскім прафклубе, дзе дадаткова працавалі два польскія гурткі: "Знішчэнне непісьменнасці і "Громкія чыткі польскіх газет".

**На тэрыторыі акругі кампактна пражывала каля 530 чалавек латышскай нацыянальнасці** на 87 хутарах вакол вёскі Галічы Мілаславіцкага раёна. Разам яны складалі Галіцка-Мызскую латышскую калонію. На тэрыторыі, дзе яны пражывалі, быў утвораны адзіны ў Калінінскай акрузе нацыянальны сельсавет — Галіцка-Мызскі. Арганізаваны 2 лістапада 1924 года. Пры сельсавеце працавала латышская хата-чытальня (у 1926—1927 гадах).

Пры калоніі ўвосень 1924 года была арганізавана латышская школа першай ступені (40 вучняў, у наступным навучальным годзе — 58). Падручнікамі на латмове школа была забяспечана на 100 працэнтаў. Пры ёй была бібліятэка.

Узімку 1924 — восень 1925 гадоў у калоніі працаваў культурны гурток, але распаўся з-за адсутнасці добрага кіраўніка. І толькі ў сувязі са стварэннем латышскай ячэйкі ЛКСМБ у студзені 1926 года (10 сяброў) актывізавалася работа. Пры ячэйцы сталі працаваць сельскагаспадарчы, драматычны і палітычны гурткі.

У снежні 1925 года Калінінскую акругу наведаў упаўнаважаны латсекцыі ЦК КПБ і адзначыў, што Калінінскі акружком КП(б)Б не арганізаваў латбюро пры акружкоме, работу праводзіў праз сакратара Галіцкай ячэйкі КПБ і гэтая работа прызнана нездавальняючай. Пасля гэтага акружком актывізаваў сваю працу сярод латышоў. У дакументах за 1926 год згадваецца латупаўнаважаны пры акружкоме КП(б)Б. Але працаваць яму даводзілася ў цяжкіх умовах. Па-першае, амаль поўнае няведанне латышамі рускай мовы, што яскрава засведчыў у дакументах кіраўнік перасоўнай школы, якая працавала ў Галіцка-Мызскім сельсавеце з 19 студзеня па 19 лютага 1926 года. Па-другое, з-за складаных адносін паміж латышамі і рускім насельніцтвам, якое пражывала вакол іх хутароў. Сяляне казалі: "Калі латыш, дык кулак... Няхай едуць у Латвію" і г. д. Іх жаданнем было сагнаць латышоў з зямлі, што яскрава пацвердзіў канфлікт жыхароў вёскі Дудараўка з латышамі ўзімку 1925 года.

Думкі наконт кулацтва падтрымлівала і частка кіруючых работнікаў камуністычнай партыі. Ужо ў снежні 1924 года першы склад "национального сельсовета" быў аддадзены пад суд за падтрымку "кулацкой линии". І, як было адзначана на пленуме акружкома 6—9 студзеня 1925 года, і "другі склад будуе сваю працу не найлепшым чынам. Магчыма, і яго аддадуць пад суд, таму што вядзецца справа па ўкрыццю жывёлы ад сельгаспадатку".

Але і паводзіны латышоў у адносінах "да рускіх" (нідзе ў дакументах на пазначаны словы "да беларусаў." — **І. П.**) былі не лепшымі. Так, у 1925 годзе Мілаславіцкаму райкому КПБ дакладваў курсант Камвуза Беларусі Карл Ліндэ, які праходзіў практыку летам у латышскім сельсавеце, наступнае:

"...паміж рускімі і латышскімі дзяцьмі назіраецца нацыянальны антаганізм. Латышскім сялянам уласціва значная частка мяшчанскай ідэалогіі, яны лічаць сябе па культуры вышэй рускага, яны лічаць, што ім няма чаму вучыцца ў "мужыка" (рускага). Гэта асабліва распаўсюджана між моладзі, таму цяжка ідзе камсамольская праца, бо ад латышоў часта можна пачуць, што ня трэба падпарадкоўвацца "рускім" — камсамольскай дысцыпліне... Моладзь імкнецца мець замкнёныя арганізацыі: гурткі фізкультуры, рэлігійныя, вечарынкі і г. д..."

Вось у такіх складаных умовах вялася культарна-асветная работа з латышскім насельніцтвам.

**На тэрыторыі акругі таксама пражывалі і літоўцы.** Жылі яны на хутарах, 50—60 двароў, каля вёскі Малькоўка Раснянскага раёна. Існавала беларуска-літоўская школа з 50 вучнямі ў 1924/25 навучальным годзе, на працягу года забяспечаная на 100 працэнтаў падручнікамі на літоўскай мове. Але ў сувязі з тым, што ніякіх спецыяльных работнікаў па працы між літоўцамі пры Калінінскім акружкоме не было, дык у дакументах архіва, якія тычацца Калінінскай акругі, адчуваецца недахоп матэрыялаў пра культурна-асветную работу з асобамі літоўскай нацыянальнасці.

Далейшае развіццё, дзейнасць і знікненне ўстаноў асветы і культурна-асветных устаноў на абшарах былой Калінінскай акругі пасля яе скасавання адбывалася ў складзе Магілёўскай і Аршанскай акруг.

Кардынальныя змены, якія адбыліся ў нашай краіне, паставілі перад намі шэраг пытанняў, звязаных з новым падыходам і навуковым аналізам гістарычнага шляху беларусаў разам з народамі, якія пражывалі і працягваюць жыць на адной з імі тэрыторыі. Немагчымы росквіт карэннай нацыянальнасці без адпаведнага развіцця нацыянальных меншасцяў і наадварот. У гэтым звязку важнае месца адводзіцца вывучэнню пытанняў гісторыі існавання і дзейнасці культурна-асветных устаноў нацменшасцяў у 20—30-я гады нашага стагоддзя, у прыватнасці, на Магілёўшчыне.

У сённяшніх варунках, каб забяспечыць нармальныя магчымасці развіцця асоб нацыянальных меншасцяў, патрэбна падрабязнае вывучэнне шляхоў і тэндэнцый, якія адбываліся ў 20—30-я гады XX стагоддзя, і на падставе аналізу іх праводзіць працу сёння, каб пазбегнуць прыкрых, дапушчаных у канцы 30-х гадоў памылак.

Бо менавіта гэты перыяд (20-я гады) яскрава засведчыў, што беларусізацыя рэспублікі ў той час і ўвядзенне культурнага абслугоўвання на родных мовах, напрыклад, прывяло да памяншэння ўзрастаючага з таго часу ліку русізмаў у мове польскага насельніцтва, прычым у той жа час не выклікала павелічэння запазычанняў з беларускай мовы.

У далейшым нацменшасці зведалі працэс русіфікацыі, у першую чаргу, менавіта праз школы і ўстановы культуры. У 1935 годзе нарком асветы БССР А. Чарнушэвіч запэўніў праз друк, што распачатую за апошнія два гады працу па разгортванню сеткі рускіх школ ён будзе праводзіць больш рашуча. І такое назіралася. У выніку наша агульнаадукацыйная школа падрыхтавала мільёны маладых людзей амаль у поўным адрыве ад нацыянальнай культуры і роднай мовы за выключэннем рускай.

У канцы 30-х — пачатку 40-х гадоў школы і ўстановы культуры нацменшасцяў на Магілёўшчыне зніклі. Ішло паступовае звужэнне сферы ўжывання роднай мовы палякамі, латышамі, яўрэямі, літоўцамі як вынік ліквідацыі нацыянальных культурных асяродкаў.

Прыведзены фактычны матэрыял па Калінінскай акрузе дазваляе зрабіць выснову, што ў 20-я гады назіраўся пэўны росквіт культурнай і асветнай працы сярод асоб, якія складалі нацменшасці на яе абшарах, прычым ён амаль цалкам супадае з хваляю адраджэння культуры і мовы беларусаў.

**Ігар ПУШКІН.**




* Трэба адзначыць, што колькасць настаўнікаў, якія працавалі ў яўрэйскіх асветных і культурна-асветных установах, узрасла з 23 да 49, з іх 32 працавалі ў школах, 2 у лікпунктах, 1 у дзіцячым садзіку, 5 у дзіцячых дамах і г. д.

Заканчэнне.
Пачатак у № 18.

***ПАМЯЦЬ***

# АХВЯРАМ «ШТАЛАГА» ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

Больш паўстагоддзя мінула з дня перамогі над фашысцкай Германіяй. Мы шмат ведаем пра Вялікую Айчынную, як кажуць, з першых вуснаў. Але многія яе старонкі ўпершыню адкрываем толькі сёння.

"Шталаг-342" — так зваўся лагер смерці, што існаваў з чэрвеня 1941-га да 5 ліпеня 1944 года ў Маладзечне. Назва "Шталаг" азначае стацыянарны лагер. У ім было 13 аддзяленняў на тэрыторыі ўсёй Беларусі, дзе пакутавалі па 300—400 чалавек. Велізарная колькасць людзей была вывезена на работы ў Германію. Усяго ў лагеры было знішчана 33 тысячы 150 чалавек з ліку ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў з усіх акупіраваных тэрыторый былога Савецкага Саюза.

Лагер знаходзіўся на Замкавай вуліцы Маладзечна, што ў паўночна-ўсходняй частцы горада. Размяшчаўся ў драўляных бараках, дзе не было ні падлогі, ні столі, ні печы. Пастаянна ў ім утрымлівалася каля 3 тысяч чалавек, сярод якіх былі старыя, жанчыны і нават немаўляты. Некаторыя траплялі сюды цэлымі сем'ямі.

З 1988 года адказны сакратар Маладзечанскага міжраённага аддзялення Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, ганаровы грамадзянін горада Маладзечна Аляксандр Мазанік збірае звесткі аб былых вязнях "Шталага". Праца ў архівах Беларусі, а таксама Масквы і Пецярбурга, сустрэчы з жывымі яшчэ былымі вязнямі, іх пісьмы — матэрыялаў гэтых хопіць на цэлую кнігу. І ўсе яны сцвярджаюць, што "Шталаг-342" быў адным з самых страшных лагераў, створаных фашыстамі на беларускай зямлі.

Вось гэтыя гнеўныя сведчанні былых вязняў "Шталага". Адзін з іх, Іван Крысін, успамінае: "Было вельмі цесна. Сядзелі амаль што адзін на адным, у начны час з-за адсутнасці прыбіральняў апраўляліся ў бараку, г. зн. у канюшні. Дызентэрыя і тыф былі павальнымі хваробамі. Кармілі вельмі дрэнна. Рэдкая поліўка адзін раз у дзень, а часам нават і гэтага не было. Хлеба давалі бохан на 12 чалавек праз 4—5 дзён".

Да хлеба дамешвалі пілавінне, а "суп" гатаваўся з непрыдатных да ўжывання прадуктаў. Бывала, што па некалькі сутак вязняў не кармілі наогул. А часам не хапала нават вады...

З больш моцных фашысты стваралі рабочыя каманды, якія штодзённа ганялі на працу. Самай звычайнай справай былі расстрэлы... У групу вязняў у любы момант маглі ўварвацца немцы і арганізаваць сабе забаву — "паляванне". З успамінаў Рыгора Шыраева, ваеннапалоннага, які знаходзіўся ў лагеры са жніўня 1941-га па восень 1942 года: "За час майго знаходжання ў лагеры я быў сведкам прыкладна 5 выпадкаў, калі немцы ўнутры лагера стралялі з аўтаматаў ці вінтовак па ваеннапалонных і кожны раз забівалі па 4, па 3 чалавекі. Былі выпадкі расстрэлу людзей на працы і ў час канваіравання з працы".

Былы ваеннапалонны Павел Краснапёркін расказаў, што найбольш лютым з фашыстаў быў фельдфебель Бец, які ў 1942 годзе расстрэльваў людзей і рабіў пасля гэтага паметкі на ручцы свайго пісталета. Акрамя гэтага, былі і масавыя расстрэлы, асабліва па начах.

Ужо ў жніўні 1941-га з'явіліся першыя выпадкі смерці ад голаду. З ліку ваеннапалонных была створана каманда магільшчыкаў, што займаліся пахаваннем памерлых. Спачатку іх хавалі ў адзежы, пасля — раздзетымі. Адзенне і абутак забіраліся на склады. Але самае жудаснае было яшчэ наперадзе.

Краснапёркін сведчыць: "Гэта адбылося ў кастрычніку-лістападзе 1941 года: наступіла ранняя зіма з першымі моцнымі маразамі. Баракі, дзе размяшчаліся ваеннапалонныя, не ацяпляліся, лазні не было, пачаўся моцны тыф. Людзі замярзалі жывымі ў час сну. Смяротнасць дайшла да 350—400 чалавек у суткі. Немцы ніякіх мер не прымалі. Пайка не павялічвалася, баракі не абаграваліся, хворых не лячылі. Было зразумела кожнаму, што ўсе гэтыя ўмовы былі створаны з намерам: спецыяльна для знішчэння людзей". Усіх закатаваных і расстраляных вязняў закопвалі ў агульныя ямы па 150—200—350 чалавек. Усіх такіх ям-магіл налічваецца 221.

Здаецца, што можа, на што здольны чалавек у такіх жудасных абставінах, калі магчымасці адстаяць сваё жыццё амаль вычарпаны і мужна памерці, мабыць, адзінае, што застаецца? Але яны змагаліся. Па словах былога вязня Ганны Цар, у лагеры дзейнічала падпольная арганізацыя. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з партызанамі, перапраўлялі да іх вязняў, арганізоўваючы ўцёкі. Але былі і здраднікі. Вайна паказала, хто ёсць хто. Палон, страх смерці — усё гэта раскрывае і "вымервае" чалавека, яго "столь" і яго "дно". А што можа быць горш, чым подласць і здрада "свайго" ж чалавека? Адзін з гэткіх "сваіх" і данёс на Паўла Цара. Фашысты схапілі яго, жорстка збілі ў прысутнасці жонкі і, так нічога і не дабіўшыся, расстралялі. А перад расстрэлам прымусілі выкапаць сабе магілу...

Аналізуючы ўспаміны і сведчанні былых вязняў "Шталага", можна дапусціць, што ў лагеры загінула ў 2 разы больш людзей, чым мы лічым сёння.

Яшчэ адзін сведка — Васіль Мусорын (працаваў у камандзе пісараў): "Як мне вядома, да восені 1941-га перапісу ваеннапалонных у лагеры не было. Увосень 1941 года праводзіўся перапіс ваеннапалонных украінцаў. Вясной 1942 года пасля каранціна (масавых захворванняў на сыпны тыф і дызентэрыю, пры якіх штодзённа паміралі ў цэлым па "Шталагу" некалькі соцень чалавек), калі ў лагеры засталося дзесьці 4,5—5 тысяч чалавек, быў праведзены перапіс ваеннапалонных. Да каранціна лічылася, што ў лагеры знаходзілася прыкладна 35 тысяч чалавек".

У Маладзечне лічаць, што такая колькасць вязняў была знішчана і за перыяд з 1942-га па ліпень 1944 года. Атрымліваецца, што толькі ў самім "Шталагу", без уліку загінуўшых у яго аддзяленнях, было знішчана каля 60 тысяч чалавек. Але каб канчаткова высветліць і даказаць гэта, патрэбна вялікая праца ў архівах у нас і за мяжой, каб адшукаць усе спісы і знайсці новыя звесткі аб загінуўшых.

У пасляваенны час магілы, дзе фашысты закопвалі свае ахвяры, зруйнавалі. На значнай тэрыторыі былога лагера ўзведзены сёння пабудовы. І толькі 2 гады таму, у красавіку 1995 года, з ініцыятывы А. Мазаніка ў Маладзечне адбылося ўрачыстае перапахаванне астанкаў ахвяр "Шталага" і адкрыццё помніка. Кіраўніком праекта стаў вядомы беларускі скульптар Леанід Левін. Помнік прадстаўляе сабой барак з бетону, без адзінага акна. У барака няма страхі, замест яе — краты. У адным месцы яны разарваныя: знак надзеі і волі. Але для поўнага завяршэння помніка сёння не хапае 500 мільёнаў беларускіх рублёў. А на рахунку Маладзечанскага аддзялення аховы помнікаў гісторыі і культуры няма ні капейкі...

А між тым, урадавая навукова-кваліфікацыйная камісія па вызначэнню ці пацвярджэнню статуса месцаў прымусовага ўтрымання грамадзян на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, створаная ў 1995 годзе, аднагалосна прыняла рашэнне: вызначыць статус маладзечанскага "Шталага-342" як канцэнтрацыйнага лагера.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны нарадзіліся і выраслі цэлыя пакаленні. Мы жывём сёння пад мірным небам і пра жахі тых дзён ведаем толькі з аповядаў. І дзякуй Богу! Толькі не трэба забываць, што за час той вайны загінуў кожны трэці жыхар Беларусі. Гэтыя людзі аддалі свае жыцці за гонар і незалежнасць Радзімы, за яе будучыню. І сённяшні спакой на беларускай зямлі заваяваны подзвігам тых, хто здабываў Вялікую Перамогу. Вечная ім памяць і пашана!

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 3

Багаты па зместу трэці нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі".

Адкрываецца выданне даследаваннем Вольгі Дадзіёмавай "Музычная культура Беларусі XVIII ст. у еўрапейскім кантэксце: некаторыя рысы адзінства і адметнасці". Кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Вольга Дадзіёмава вядомая як аўтар выдатных прац па гісторыі музыкі XVIII—XIX стагоддзяў. За апошнія гады ў айчынных і зарубежных архівах яна знайшла мноства невядомых музычных твораў. Аналізуючы музычную культуру Беларусі XVIII стагоддзя ў вышэйзгаданым даследаванні, В. Дадзіёмава на падставе выяўленых фактаў сведчыць, што "ўжо сёння можна гаварыць аб яўна заходнееўрапейскай арыентацыі нашай музычна-прафесійнай культуры, рух якой у XVI—XVIII стагоддзях ажыццяўляўся па характэрнаму для заходняй музычнай цывілізацыі шляху "ад Рэнесанса да класіцызму". Аднак XIX стагоддзе, якое для большасці еўрапейскіх музычных культур стала перыядам росквіту, для беларускай культуры аказалася адным з самых драматычных. Пасля паступовай пераарыентацыі яе "вектара" з Захаду на Усход адбываюцца многія змены і губляюцца яе ранейшыя асаблівасці.

Пад рубрыкай "Прысутнасць беларускай культуры ў свеце" друкуецца артыкул аўстрыйскага беларусіста Германа Бідэра "Развіццё аўстрыйскай беларусістыкі ў 90-я гады". Доктар філалогіі Зальцбургскага універсітэта, даўні аўтар прац пра беларускую мову, выступаў і на старонках "Голасу Радзімы". Г. Бідэр сведчыць, што да пачатку 90-х гадоў большасць аўстрыйскіх славістаў яўна недаацэньвалі значэнне беларускай культуры. Аднак дзякуючы некаторай дэмакратызацыі грамадскага жыцця ў Беларусі ў першай палове 90-х гадоў, значна павялічылася цікавасць аўстрыйскай універсітэцкай славістыкі да беларускіх праблем, былі ўстаноўлены шматлікія асабістыя кантакты паміж вучонымі абедзвюх краін.

Пра сённяшнія сувязі Беларусі і Францыі, што развіваюцца ў многіх накірунках, расказвае прэзідэнт таварыства "Беларусь — Францыя" Сяргей Галаўко.

Цікавы раздзел "Беларусы ў свеце", дзе згадваюцца малавядомыя ці забытыя імёны беларусаў, якія ўнеслі свой уклад у развіццё культуры, навукі, літаратуры Беларусі. У згаданым нумары па невялікаму артыкулу прысвечана Эдварду Будзьку, Васілю Ермакову, Лявону Рыдлеўскаму.

Зусім нядаўна адкрылі мы для сябе імя Аляксандры Саковіч. У "Голасе Радзімы" ў мінулым годзе ёй быў прысвечаны вялікі артыкул Лідзіі Савік. Мы віншавалі яе з 90-годдзем і друкавалі адно з яе апавяданняў. І вось сумная вестка: 8 студзеня 1997 года Аляксандры Саковіч не стала.

## «ЯНКА КУПАЛА — ПУБЛІЦЫСТ»

### ТАКАЯ ТЭМА КУПАЛАЎСКІХ ЧЫТАННЯЎ, ПРЫСВЕЧАНЫХ 115-м УГОДКАМ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

**Міжнародны фонд Янкі Купалы, Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць даследчыкаў беларускага культурнага мацерыка на досвед публіцыстычнай дзейнасці аднаго з дойлідаў нацыянальнага Адраджэння, паэтазванара, чыё ваяцкае слова фармавала Беларускую ідэю.**

**Міжнародная навуковая канферэнцыя пройдзе 20 кастрычніка 1997 г. у Доме Купалы. Аб сваёй згодзе, калі ласка, пішыце на адрас:**

**220030, г. Мінск, вул. Янкі Купалы, 4.**
**Тэл.-факс: 227-79-43; 227-78-66.**

***Просім паведаміць да 1 жніўня назву даклада, а таксама звесткі пра пасаду, навуковую ступень, службовы і хатні адрас, тэлефон або факс, па якім можна падтрымліваць з Вамі сувязь. Тэзісы даклада просім даслаць да 1 верасня.***

***Даклады ўдзельнікаў канферэнцыі будуць выдадзены асобным зборнікам.***

***АРГКАМІТЭТ.***



**Саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве Васіль Жалудко і адказны сакратар Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Аляксандр Істомін перадалі Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь тры копіі гравюр нашага земляка, вядомага мастака XIX стагоддзя Напалеона Орды. Работы гэтыя былі знойдзены ў Нацыянальным мастацкім музеі Літвы. Цяпер беларуская бібліятэка мае поўную серыю гравюр Напалеона Орды, на якіх паказана старадаўняя архітэктура многіх гарадоў Беларусі — Гродна, Полацка, Мінска.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час цырымоніі перадачы копій гравюр; копія адной з гравюр Напалеона Орды.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**





Инна (Михалина) БУЙЛО

# ПО ПРОЙДЕННЫМ ДОРОГАМ

Мы увидели седую, худенькую, маленькую старушку, скромно одетую, держащую на коленях собачку. На ее вопрос, что нам нужно, мы изложили ей наше положение и попросили помочь нам. Она спросила, кончили ли мы гимназию... Мы не задумываясь сказали — 6 классов. Почему "6", не знаю... Но мы даже и в коридоре гимназии не были. Сработал инстинкт самосохранения. Она нам поверила и сказала: "Завтра пойдет моя подвода в Кухтичи" (это недалеко от станции Негорелое). И добавила, что Стасю она отправит туда учить детей батраков. Учить нужно по-белорусски, а главное катехизису. Мы ушли от княгини, не веря своему счастью. Мне пообещала, что через неделю отправит в другое имение, и я должна к ней зайти, узнать результат. Какое это было счастье, как мы благодарили Косточку, ведь это она нам помогла не умереть с голоду. Назавтра Стася уехала. Одета она была легко, не было зимнего пальто, а ехать 30 километров на открытом возке. Она очень замерзла. Был декабрь, и это не прошло ей даром, она поплатилась жизнью.

Через неделю я пошла к княгине, и она мне сказала, что завтра едет карета в Кухтичи и она пока отправит меня туда. Меня усадили в карету, запряженную четверкой чудесных лошадей. Я села на сиденье, а кучер в ливрее — на козлы. Я ехала одна, и меня поразило, что в деревнях, крестьяне снимали шапки и кланялись, думая, что в карете сидит вельможа. А это я... нищая девчонка, бездомная. Так я добралась до Кухтич. Это красивое



имение. Большой дом с колоннами. Меня радостно встретила Стася. Она занимала комнату с окнами в парк. В доме было очень много комнат, все пустые, без мебели. В другом конце дома жил старый лакей с дочерью, милой девочкой лет 20, мы с ней очень подружились. Стася хорошо пела, и девушка тоже. Они часто по вечерам пели дуэтом — это было чудесно! Стася уже набрала учеников и в одной из комнат дворца занималась с ними, учила их петь на два голоса. У них получился прекрасный хор. Еду нам приносили из кухни, правда, один обед на двоих, притом очень скудный. Но мы были рады тому, что есть работа и крыша над головой. Я несколько месяцев прожила у Стаси без дела, выжидая распоряжения княгини. Здесь тоже были немцы. Но вели себя корректно. Часто мы гуляли со Стасей в парке, встречали немецких офицеров, которые вежливо кланялись. Жили мы со Стасей в одной комнате, спали на одной кровати и были счастливы, что мы вместе.

Но вот в один прекрасный день меня также по оказии повезли в карете в имение Жорновка Бобруйского уезда. Жорновка — это большой одноэтажный дом, уже старый и не такой красивый, как в Кухтичах. Там меня встретила "ахмистриня", т. е. ключница. Доложила, кто я, и она меня поместила в комфортабельную комнату с полной обстановкой и прекрасной постелью и бельем. В одном коридоре жила я и она. В другом конце дома жила разведенная графиня с двумя мальчиками и няней, над которой эта самодурка страшно издевалась. Запирала ее в чулан и по нескольку дней не кормила. Я недоумевала, почему все знают об издевательстве графини и все же молчат. Но ключница мне сказала, что говорить нельзя, выгонят с работы. Девочка была круглой сиротой и отдана на растерзание этой графине. Ах, если бы это в наше время! Судили бы такую мразь! А тогда была их безграничная власть.

Мне отвели под школу особняк, расположенный в 1/2 километра от усадьбы. Там было четыре чудесных особняка в виде летних дач, рядом — лес, и жил лесничий, немец Шталь с женой. Они познакомились со мной, и я бывала у них в гостях. В школу привезли большие столы и скамейки, и я пошла по батракам в поисках учеников, набралось человек 30. Все они, к счастью, были или совсем неграмотные, или чуть-чуть читали и писали, иначе мне было бы трудно с "6-классным образованием". Я учила детей писать палки, цифры и немного катехизиса по приказу княгини. После уроков я уходила с детьми в лес гулять. Они были очень хорошие, послушные, никакого баловства, забитые и робкие. Меня никто не контролировал, никто не проверял. Я была предоставлена самой себе. И это мое счастье. Я теперь вспоминаю этот период своего учительства и краснею: сколько было ляпсусов! Стася — дело другое! Она была умная, начитанная и любила труд учителя, притом она была старше меня, имела больше опыта.

Когда я приехала в Жорновку, там стояли немцы, они занимали часть дома. Я с ними тоже познакомилась, часто встречались в парке, но говорить было трудно.

Как-то утром пришла ко мне в комнату пани Мария-ключница и сказала, что за мной приехали с Кухтич и что я должна сейчас туда ехать. Зачем, никто не знал. Я очень волновалась, т. к. от Стаси писем не получала. Кучер подвез меня в Кухтичах к парадному крыльцу, вышла горничная и сказала, что я должна зайти к княгине. Когда я пришла к ней, она



мне сказала, что Стася больна туберкулезом, что у нее кровохарканье и что она ее посылает лечиться в Отвоцк, предупредила, чтобы я сестру не целовала: болезнь заразная. Я ее не поцеловала и этого не могу себе простить и сейчас! Стася жила рядом во флигеле из 2-х комнат. Когда я пришла, она лежала на кровати, сказала, что ее лечит немецкий врач и что он очень просил княгиню послать ее в Отвоцк. Назавтра подали коляску, Стася, я и еще один мужчина, который сопровождал Стасю, потому что она была очень слабая, приехали на станцию Негорелое. Там я навсегда простилась со Стасей.

Когда я вернулась в Жорновку, там уже немцев не было, пришли польские уланы. Их руководитель, некто барон фон Ранке, остановился в нашем доме, питался вместе с нами. За стол садились он, юрист, пани Мария, электрик и я. Питание было здесь очень хорошее, не сравнить, как в Кухтичах. Вот бы Стасеньке такое питание с ее больными легкими, думала я. Так прошел год. Лето и зиму я занималась с детьми. Барон даже ухаживал за мной, он был интересный, но мне помогло воспитание мамы. Я помнила ее слова: если что, привяжи камень на шею и в воду, домой не являйся! Это жестоко, но правильно. Мы все время вращались в обществе, стоящем выше нас. Мы не имели образования, но имели начитанность и какой-то гонор, врожденный такт и культуру.

Жизнь моя пошла своим чередом, но к осени стали поговаривать, что наступают красные. Газеты писали о страшных зверствах красных в России: виселицы, убийства, насилие, пожары, и т. д. И вот в один прекрасный день поспешно уезжают польские войска, в том числе Ранке. К крыльцу дома стали подъезжать кареты, коляски, и почти в один день все уехали. Уговаривали ехать и меня, но я решила остаться с пани Марией. Я боялась, что там меня ждет то же, что и в Минске. Здесь тоже было страшно оставаться, если верить газетам. Но я осталась, во-первых, хотелось к родителям. Правда, я мало верила, что они живы, в газетах писали, что имения все сожжены, а жители имений повешены. Я два года не получала писем от родных.

Оставшись одни с пани Марией, мы решили перебраться из большого дома в маленький флигель у дороги с одной комнатой и кухней. Школу свою я тоже перебазировала на усадьбу, туда, где жили батраки, в одну свободную квартиру. После бегства всей знати наступило полное затишье, как будто все говорили шепотом, полное безвластие длилось несколько дней. Я ходила в школу, занималась с детьми, а пани Мария вела наше нехитрое хозяйство: готовила обед и т. д. Жили мы с ней в одной комнате, питались вместе княжескими харчами. Однажды, когда я была в школе с детьми, пришла женщина-батрачка и сказала, что идут красные. Я очень испугалась, что они застанут меня здесь одну с детьми в этом пустом доме. Решила идти к пани Марии. Отпустила детей и, не чувствуя под собой ног, побежала домой. О ужас! Войдя в кухню, я увидела за столом человек 20. Пани Мария их угощала. Это были люди в разной одежде, кто в военной форме, кто в штатских куртках. Я так испугалась, что еле прошла в нашу спальню. На мне была белая вязаная шапочка, синий жакет и синяя юбка, желтые ботинки. Когда я открыла дверь своей комнаты, услышала: "Это что, польская шпионка?" Я не слышала, что ответила пани Мария, но, видимо, сказала, что учительница. Я села у себя на кровать и дрожала от страха. Через некоторое время открылась дверь, и вскачку вошел молодой человек в военном костюме, но без погон. Он, видимо, заметил мой испуганный вид, я вся сжалась и ждала, что сейчас начнется то, о чем писали польские газеты. Но молодой человек очень просто подошел ко мне, сел на стул (у меня лежала гитара на кровати) и спросил: "Играете"? Я сказала да. Он стал расспрашивать, кто я, что здесь делаю. Я ему все рассказала, и страх постепенно прошел. Он был простой и очень человечный, похож на Телегина. Узнав, что мои родители в Витебской области и что я два года не получала от них писем, он сказал, что я сейчас буду получать письма и скоро смогу уехать к ним. Я очень обрадовалась, была благодарна ему за хорошие вести. Я убедилась, что в газетах была ложь на красных. Вскоре я получила много писем от моих родителей, была безмерно счастлива, что они живы. Мама писала: "Теперь здесь у нас власть наша, власть бедных. Мы помещика прогнали, нам дали землю, лошадь и корову. Живем мы хорошо!" Через несколько дней меня вызвали в район, мою школу взяли на учет, а мне назначили зарплату. Я стала учительницей не в частной школе, а в государственной. Вот тут я почувствовала свою безграмотность.

**НА ЗДЫМКАХ: апошні здымак сяцёр Буйло. 1983 год; станцыя Лугавая, 1963 год. Сядзяць — Іна і Канстанцыя БУЙЛО, Паня, жонка Вітольда. Стаяць — сын Іны Антонаўны АЛЕГ, яе зяць ГРЫША, Вітольд БУЙЛО, муж Канстанцыі Антонаўны — Барыс Мацвеевіч.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 15-18.**

---

ГЕОРГІЙ ПАПЛАЎСКІ — НАРОДНЫ МАСТАК

# ПЕРАМАГЛА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Георгію Паплаўскаму прысвоена званне народнага мастака. Хаця, як нам здаецца, сапраўдным народным жывапісцам ён стаў ужо даўно, і нават тых, хто не ведае яго імя, не раз захапляліся яго карцінамі ці графічнымі работамі. Так ужо атрымалася, што карэспандэнт "Голасу Радзімы" аказаўся першым, хто ўзяў у мастака інтэрв'ю пасля гэтай выдатнай весткі.

— Што адчувае чалавек, які даведаўся пра такую навіну?

— Я думаю пра тое, што справядлівасць нарэшце перамагла. Праўда, я радаваўся б значна больш, калі б гэта адбылося дванаццаць гадоў назад, калі мяне да гэтага звання прадставілі... Я, вядома, не буду какетнічаць, сцвярджаць, што мне гэта ўсё роўна, але, як гаварыў адзін мой знаёмы, у жыцці можна перажыць абсалютна ўсё, толькі трэба жыць вельмі доўга. Дык вось, я столькі жыву, што, напэўна, прыйшоў час і для гэтага прызнання... Я думаю: галоўнае тут тое, што іншыя, маладзейшыя за мяне, могуць верыць і спадзявацца на канчатковую перамогу справядлівасці.

— А што са зробленага вамі для вас даражэйшае за ўсё?

— Я чалавек, які захапляецца. Тэматыка маіх работ самая разнастайная: пісаў пейзажы, ваенную тэматыку, ілюстраваў кнігі — класічную літаратуру, замежную, беларускіх аўтараў, мяне прыцягвала касмічная тэма, падарожжы, мора... Я іншы раз думаю: "Божа, колькі ж усяго я перамаляваў!" І вылучыць нешта асаблівае з усяго я проста не магу.

— Як вы лічыце, ці не страцілі людзі апошнім часам цікавасць да мастацтва, у прыватнасці, да жывапісу?

— Мне здаецца, што справа не ў гэтым, проста змяніліся грамадства, і крыху змяніліся арыенціры. Калі раней мастакі працавалі на выставы, на музеі, то сёння ім давялося наблізіцца да народа, да спажыўца, да таго, хто плаціць за карціны. І, дарэчы, па-мойму, самі людзі сталі больш цікавіцца мастацтвам. Бо не выпадкова адкрылася мноства галерэй, у палацы мастацтва — дзве-тры выставы ў месяц, у той час як раней адна выстава магла вісець па два-тры месяцы. Да мяне сёння ў майстэрню ходзіць значна больш людзей, чым раней. Так што гаварыць пра падзенне цікавасці да выяўленчага мастацтва не даводзіцца. Сёння ў аснову жывапісу кладзецца прафесіяналізм, і гэта вельмі важна.

— Ці стала ад гэтага лягчэй самім мастакам?

— Раней Саюз мастакоў налічваў тысячу членаў, а творчых людзей там было не больш сотні, і толькі чалавек дваццаць з іх — сапраўдныя мастакі. Але вылучаемыя дзяржавай грошы дзяліліся, між іншым, на ўсю тысячу. А сёння: калі мастак сапраўды добры, ён і вядомы, і можа зарабіць. Я ўпэўнены, што ў рэшце рэшт усё становіцца на свае месцы, а перамены — яны да лепшага.

— Дзякую за інтэрв'ю, мы яшчэ раз віншуем вас з прысваеннем звання.

Вераніка ЧАРКАСАВА.







# ПАДАРУНАК АД СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Абаяльная асоба юбіляра вызначыла танальнасць вечарыны, на якой панавала атмасфера цеплыні, павагі, захаплення і ўсхваляванасці ад сустрэчы з цудоўнай паэзіяй і шчырым, разумным, добразычлівым і спагадлівым чалавекам. Нездарма, віншуючы Сяргея Грахоўскага з юбілеем, яго малодшы калега Васіль Зуёнак сказаў, што ішоў сюды не столькі з падарункам для юбіляра, колькі па падарунак, бо кожны, хто прысутнічаў на вечарыне, атрымаў падарунак ад сустрэчы з паэтам.

Вяла вечарыну паэтэса Раіса Баравікова. У любові да С. Грахоўскага прызнаваўся Янка Брыль, расказваючы аб 40-гадовым сяброўстве з ім. Юбіляру чыталі вершы, што прысвяцілі яму Пімен Панчанка, Пятрусь Макаль, Святлана Басуматрава. Але я чамусьці думаю, што найбольш кранулі чулае сэрца Сяргея Грахоўскага музычныя прывітанні Ірыны Шумілінай і Яна Скрыгана-малодшага, якія сведчылі пра талент нашчадкаў знакамітых людзей, з якімі сябраваў паэт, а таксама пра тое, што і малодшыя пакаленні ведаюць і шануюць творчасць карыфеяў. Гэту думку пацвердзілі і выдатныя выступленні студэнтаў Акадэміі мастацтваў, якія так душэўна і прачула выконвалі творы паэта, што ў слухачоў набягалі слёзы.

Дзякуючы за добрыя словы, падарункі і кветкі, якіх у той дзень было вельмі многа, Сяргей Грахоўскі жадаў усім людзям, якія будуць жыць у наступным стагоддзі, сумлення, бо толькі тады яны будуць жыць у грамадстве, дзе не будзе забойстваў, грабяжоў і падману.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Яўген ЦІХАНОВІЧ падараваў юбіляру сваю карціну; з сябрамі і калегамі фота на памяць; у зале ў час вечарыны.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# СУСТРЭЧЫ ПОМНЯЦЦА ДОЎГА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

засведчыў мой субяседнік.

Яму даводзілася таксама замалёўваць слуцкія паясы, якія захоўваюцца ў Эрмітажы і ў Этнаграфічным музеі ў Санкт-Пецярбургу. А гэта, зразумела, даволі карпатлівая праца, бо патрэбна было захаваць не толькі дакладнасць узору, але і колеру. Мне падумалася, што, мажліва, у такія хвіліны Анатолю Мікалаевічу згадвалася паэзія Максіма Багдановіча. Ён з лагоднай усмешкай зазначыў:

— Так, паэтычныя радкі Максіма Багдановіча часта прыпаміналіся, бо гэта праца адбывалася пасля этнаграфічнай экспедыцыі па Случчыне. Там даводзілася чуць, як вясковыя дзяўчыты спяваюць "Слуцкія ткачыхі", "Зорку Венеру", "Пагоню". Такія хвіліны не забываюцца.

Услед давялося пачуць, што Максім Багдановіч сваёй паэзіяй, поўнай велічнай красы, шчырых пачуццяў і гістарычнай сімволікі, ніколі нікога з творчай моладзі не пакідаў раўнадушным. Хіба толькі людзей чэрствых магла яна не закрануць. Паэт, які шмат часу знаходзіўся ў далечыні ад роднага краю, глыбока адчуваў моц сваіх каранёў, іх сілу. Таму, відаць, і стаў ён блізкім і дарагім для людзей роднай старонкі. Паэту Анатоль Тычына прысвяціў сваю працу "Максім Багдановіч у Ялце".

Прыемна было ўсведамляць думкі, што навеяны мастаку падзеямі ўласнага жыцця — разлукай з роднымі мясцінамі на Шаўляйшчыне і Ковеншчыне, па якіх ён сумаваў падчас першай сусветнай вайны ды грамадзянскай калатнечы ў Расіі, дзе працягваў вучобу. Анатоль Мікалаевіч з гордасцю адзначаў, што вядомы дзеяч, будзіцель у беларусаў пачуцця чалавечай годнасці і грамадзяніна, стваральніка нацыянальнага руху Іван Луцкевіч (1881—1919) — яго зямляк, які родам з павятовага Шаўляя.

У час многіх экспедыцый А. Тычына вывучаў матэрыяльную культуру вёсак Міншчыны, інтэр'еры сялянскіх хат, дэкоры мэблі. Разам з тым імкнуўся вывучаць аздабленне кніжак у сярэднявеччы ў еўрапейскіх краінах, што прывяло да зацікаўленасці экслібрысам як самастойным жанрам графічнага мастацтва. У 1928 годзе ён ужо спазнае першы плён сваіх стаaccount ранняў. Менавіта тады Беларускае таварыства бібліяфілаў выдала яго кніжныя знакі асобным выданнем з мэтай, як адзначалася ў прадмове бібліёграфа А. Шлюбскага, "дапамагчы будучым даследчыкам беларускага экслібрысу хутчэй і лягчэй падабраць матэрыял і разабрацца ў ім". Тут мелася на ўвазе, падкрэсліў Анатоль Мікалаевіч, выдзеліць характэрныя асаблівасці кніжнага знака, разнастайнасць тэматыкі і тэхнікі выканання. Тады ў зборнічку "Экслібрысы..." было змешчана 16 прац, а ў 80-я гады іх ужо налічвалася каля 70-ці, і экспанаваліся яны на многіх рэспубліканскіх і замежных выставах.

Светлыя ўспаміны захаваў Анатоль Тычына аб людзях, побач з якімі працаваў. Пра Мікалая Шчакаціхіна (1896—1940) гаварыў як пра чулага кіраўніка, які шчыра клапаціўся аб станаўленні беларускай нацыянальнай мастацкай школы, шмат рабіў для папулярызацыі гравюр і кніжных аздобаў у выданнях Францішка Скарыны. Яму ён прысвяціў экслібрыс з надпісам лацінкай "З кнігазбору Міколы Шчакаціхіна". На ім уладальнік кнігазбору прадстаўлены як аўтар шэрагу прац з гісторыі беларускага мастацтва. Постаць Венеры Мілоскай абвіта скарпіёнам, а праз акно відаць мінская ратуша; унізе з правага боку — манаграма "М. Ш.", а з левага — злучэнне астранамічных знакаў Венеры і Скарпіёна. Затым падаюцца аздобы на матывы слуцкіх паясоў.

Кіраўніка "Катэдры этнаграфіі", як тады казалі і пісалі, правадзейнага члена Інбелкульта Вацлава Ластоўскага Анатоль Мікалаевіч характарызаваў з глыбокай пачцівасцю. Ён падкрэсліваў, што гэта быў надзвычай інтэлігентны чалавек, вучоны высокай культуры, карыстаўся павагай. Яго "Кароткая гісторыя Беларусі" выйшла яшчэ ў нашаніўскі перыяд у Вільні. "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" выдадзена ім на эміграцыі ў Коўне. Кнігі Ластоўскага атрымалі шырокую вядомасць у тыя часы. Адметны след пакінуў вучоны і як літаратар на ніве прыгожага пісьменства.

З прыемнасцю апавядаў мастак пра афармленне кніжак для Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Аднак прызнаваўся, што



Анатоль ТЫЧЫНА. 20-я гады.

першыя крокі, хаця і прыносілі плён, не заўсёды яго задавальнялі, ішоў пошук уласнага стылю, было імкненне да большай мастацкай выразнасці малюнка. Да лепшых прац залічваў вокладкі да кніжак паэзіі Алеся Дудара "Шанхайскі шоўк" (1926), Юркі Гаўрука "Кветкі з чужых палёў" (1928), Язэпа Пушчы "Дні вясны" (1929). Хаця і ў іх бачыў зашмат алегарычнасці, а магчыма ўскладнёнасці. Лічыў, што больш прасторы для раскрыцця вобраза ці галоўнай тэмы адкрываецца ў буйных творах, перадусім у аповесцях, паэмах, раманах. Для прыкладу, ён згадваў, з якім захапленнем працаваў над малюнкамі для аповесці Янкі Маўра "Чалавек ідзе". Тут для кожнага раздзела ім падрыхтаваны адпаведныя па зместу тонавыя малюнкі з характэрнымі ілюстрацыямі-буквіцамі. Для паўторнага выдання кнігі, якое з'явілася ў 1932 годзе, зноў былі выкарыстаны тыя ж ілюстрацыі А. Тычыны.

З прыемнасцю гаварыў мастак пра сваю працу над вокладкай да паэмы Янкі Купалы "Магіла Льва", а затым пра сумесную вандроўку з ім на Любаньшчыну, каб зрабіць накіды ілюстрацый да яго твора "Над ракой Арэсай".

У драматычныя 30-я гады таксама нямала было праілюстравана кніжак беларускіх літаратараў, з якімі мастака звязвала шчырае сяброўства. А гэта, апрача ўжо ўспомненых, былі Міхась Чарот, Тодар Кляшторны, Платон Галавач, Уладзіслаў Галубок.

З непрыхаванай журбой Анатоль Мікалаевіч бярэ з уласнай бібліятэчкі зборнічак паэзіі Язэпа Пушчы "Дні вясны" і падае мне. Кніга з аўтографам аўтара:

**Вясенні шум сасны**
**Над нашымі гадамі.**
**Я ўспомніў "Дні вясны"**
**І рад сустрэчы з Вамі.**
**Ніяк не патушыць**
**Святільніка паэту.**
**Ад сэрца, ад душы**
**Дару Вам кніжку гэту.**

*Язэп ПУШЧА.*
*20 сакавіка 1961 г. Мінск.*

Апошні прыжыццёвы томік лірычных вершаў паэта Анатоль Мікалаевіч перачытаў незадоўга да нашай сустрэчы, таму меў аб ягонай паэзіі акрэсленую думку:

— Захапляе задушэўнасцю, любоўю да роднай прыроды, людзей... Такім заўсёды перада мною паўстае вобраз аўтара — удумлівага, ветлівага чалавека.

Зазначу, што Анатоль Тычына любіў і шанаваў усіх, хто годны наймення чалавек, чые ўчынкі вартыя добрага слова. Ён надзвычай цешыўся, калі яго наведвалі землякі з Шаўляйскага краю, дзе 11 траўня 1897 года ён нарадзіўся. Аднойчы мастак запытаўся ў мяне, ці чуў я пра Крысціёнаса Данелайціса. Яго ная паэма "Чатыры пары года" ў пачатку 60-х гадоў у перакладзе Аляксея Зарыцкага выйшла на беларускай мове. Гэта самабытны паэт, буйная зорка на літаратурным небасхіле XVIII стагоддзя Літвы. Наступным разам, калі я завітаў да Анатоля Мікалаевіча, вырашыў прывітаць яго паэтычнымі радкамі Данелайціса:

**"Зноў узнімаецца сонейка вышай і свет абуджае..."**

Мастак-творца адказаў, што гэта з раздзела "Радасці вясны"... Але ішлі хутка дні за днямі, і мастака не стала. Не дачакаўся ён новай, 90-й вясны ў сваім жыцці. Гэта адбылося ў 1986 годзе марозным снежаньскім днём.

* * *

Вясною, найчасцей у травеньскія дні, магілу Анатоля Тычыны наведваюць родныя, блізкія, усе прыхільнікі яго таленту, каб аддаць даніну глыбокай павагі ягонай памяці. Вось і на гэтым фотаздымку чытач убачыць землякоў мастака, настаўнікаў, работнікаў культуры, яго родных і блізкіх, сяброў.

Землякі паведамілі, што ў іх зарадзілася думка адкрыць у сваім гарадку музей Анатоля Тычыны. Высакародная думка адразу ж знайшла ўдзячную падтрымку ў жонкі мастака Зінаіды Сямёнаўны і іх дачкі Алы Анатольеўны.

Прайшло пару гадоў. Вестка аб адкрыцці музея — мастацкай галерэі Анатоля Тычыны ў родным Грузджаі прыемна ўразіла. У памяці ажывалі незабыўныя сустрэчы з абаяльным чалавекам, закаханым у духоўную спадчыну беларусаў і літоўцаў, таленавітым творцам-графікам, жывапісцам, руплівым даследчыкам мінуўшчыны, адным з першых навуковых супрацоўнікаў Інстытута культуры. Менавіта сюды, на Шаўляйшчыну і Ко-

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Ля магілы мастака.

# СУСТРЭЧЫ ПОМНЯЦЦА ДОЎГА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

веншчыну, Анатоль Мікалаевіч не раз вяртаўся ў думках, куды клікалі яго сцяжынкі маленства, дзе калісьці, па ўласнаму азначэнню, пралягалі шляхі славутых А. Міцкевіча і М. Чурлёніса. Адчувалася заўжды, што гэтыя мясціны яму бясконца дарагія.

І вось Зінаіда Сямёнаўна паведамляе, што землякі Анатоля Мікалаевіча запрашаюць нас, родных і блізкіх, а таксама людзей, якія цікавяцца духоўнай спадчынай братніх народаў, прыехаць на свята...






Пачалося яно з памінальнай імшы ў старадаўняй святыні, якая з часоў сярэднявечча, захоўваючы рамантычную ўзнёсласць і веліччнасць, горда ўзвышаецца над шматлікімі будынкамі маляўнічага літоўскага гарадка. Дзень выдаўся пагодлівы, ціхі. А ранні звон з вежы касцёла меладычна склікаў прыхаджан на ўрачыстае набажэнства. Была субота. У адзінаццаць гадзін трыццаць хвілін прасторная зала бажніцы напоўнілася мелодыямі харалаў і псалмаў хрысціянскіх малітваў і павучальных прыповесцяў. Вітаўтас Курцінайціс, малады святар, з высокай годнасцю даводзіў, што ідзе касцельная служба з аказіі 96-х угодкаў Анатоля Тычыны, слаўнага сына гэтай зямлі, жыццё і справы якога ўрачыста ўшаноўваюцца. Бо менавіта тут будучага мастака ахрысцілі і далі імя Анатоль.

Надзвычай хораша гучала распеўная літоўская мова, якая ў дзяцінстве захапляла ўражлівага хлопчыка і вяла яго ў вялікае жыццё. Цяпер пад духоўную музыку аргана яна палоніць нас чароўнай малітвай "Авэ, Марыя". Набажэнства доўжылася больш гадзіны. Душу паволі агортвала заспакоенасць і прыдавала ўпэўненасці ў добрых учынках і справах людзей, якія няспешліва пакідалі святыню, каб ісці і знаёміцца з мастацкай спадчынай заслужанага творцы.

Праз малады скверык людзі накіраваліся да невялікага двухпавярховага дамка па вуліцы Бержу. На падыходзе іх вітаў сустрэчны марш літоўскіх эсперантыстаў Ніёле Караленe і Вінцаса Барцыса, якія з віртуознасцю выконвалі яго на акардэоне і скрыпцы. Тут таксама сабралася ўжо шмат народу. Прысутнічала кіраўніцтва гарадка Грузджай і Шаўляйскай акругі. Усе яны сардэчна віталі беларускую дэлегацыю. І вось Івонас Дундуліс — стараста Грузджайскай гарадской управы — запрасіў жонку мастака перарэзаць цырыманіяльную стужачку і разам са святаром увайсці ў будынак. Пры ўваходзе з левага боку вабіла прыгожа аздобленая ў народным стылі таблічка з невялікай стрэшкай, на якой красавалася: "Музей — мастацкая галерэя Анатоля Тычыны".

Да агляду экспазіцыі перад прысутнымі выступалі Данута Мацюкене — адказны сакратар Шаўляйскай акруговай управы, Вале Юрэмене — загадчыца акруговага аддзела культуры, прафесар Рымкус Вітэніс, якія ў сваіх прамовах адзначылі важнасць адкрыцця музея Анатоля Тычыны, значнасць гэтай падзеі ў культурным яднанні суседніх народаў, іх гістарычнай супольнасці і выказвалі глыбокую ўдзячнасць Зінаідзе Сямёнаўне за бясцэнны дар жыхарам Грузджая і ўсяму Шаўляйскаму краю, які шануе свайго слыннага земляка. Па іх глыбокаму перакананню, мастацкая галерэя будзе садзейнічаць эстэтычнаму выхаванню моладзі, якая будзе наведваць яе. Прыемна было чуць ад гаспадароў, што музей заклікана сімвалізаваць працяг шматвяковых прыязных творчых стасункаў беларускага і літоўскага народаў.

У гэты ж дзень на будынку сярэдняй школы (непадалёку ад музея) па вуліцы Шаўляйская, 2, урачыста была асвячона святаром і пад акорды вітальнага марша эсперантыстаў адкрыта мемарыяльная дошка, якая сведчыла, што на гэтым месцы стаяў дом, у якім нарадзіўся Анатоль Тычына.




Арганізатары свята прадугледзелі, каб усе галоўныя падзеі памятных дзён здымаліся на каляровую плёнку і запісваліся на магнітафон. На развітанне кінааператар і рэжысёр Алціс Пуорумас касету з фільмам аб ушанаванні памяці Анатоля Тычыны падараваў яго жонцы. З выключнай гасціннасцю і добразычлівасцю літоўскіх сяброў, іх рупнасцю аб цікавай культурнай праграме для беларускай дэлегацыі закончылася свята ў Грузджаі.

* * *

І зноў надыходзяць травенскія дні. І будуць сустрэчы. Яны помняцца доўга. Пра гэта пішуць у сваіх лістах і паштоўках землякі Анатоля Тычыны.

Прайшло тры гады плённай працы музея — мастацкай галерэі Анатоля Тычыны ў Грузджаі. Жыхары яго ганарацца сваім музеем. Арганізоўваюць тут сустрэчы, ладзяць выставы мясцовых творцаў. Тут святкуюць і Каляды, адбываюцца розныя літаратурныя імпрэзы. З цікавасцю прайшло абмеркаванне зборніка паэзіі пробашча грузджайскай святыні. Паспяхова прайшла выстава мастацкіх работ другога святара з акругі.

Зараз моладзь, работнікі культуры рыхтуюцца да памятнай гадавіны — 100-годдзя з дня нараджэння Анатоля Тычыны. Адбудзецца свята. Жыхары Грузджая ўпэўнены, што духоўная спадчына, мінулае павінны спрыяць захаванню і развіццю добрасуседскіх, прыязных стасункаў. Такое імкненне ў Мінску вітаюць усе прыхільнікі таленту Анатоля Тычыны. Дай Божа, каб так было заўсёды!

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: экслібрысы, выкананыя А. ТЫЧЫНАМ.**

## БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ

**Шаноўныя чытачы!**

**Працягваецца падпіска на другое паўгоддзе 1997 года.**

**Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.**

***Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 15 чэрвеня.***

***Кошт падпіскі:***
***на 1 месяц — 4 тысячы рублёў***
***на 3 месяцы — 12 тысяч рублёў***
***на 6 месяцаў — 24 тысячы рублёў.***

***Шэраг нацыянальных трагедый, што выпалі на долю беларускага народа, паставілі на мяжу яго духоўныя і фізічныя сілы. Менавіта вера ў Бога дапаможа вярнуць беларусам маральныя цноты, думку, слова, індывідуальнасць, выратаваць люд беларускі з абцугоў самазнявагі, знішчэння лепшых рысаў асобы. Роля чалавека багатага духоўнага свету сёння надзвычай важная, калі так неабходна падтрымаць у нашым народзе веру ў свае сілы, самапашану, трапяткое стаўленне да Бога.***

***З мэтай адраджэння нацыянальных духоўных, культурных, гістарычных хрысціянскіх каштоўнасцяў на Беларусі, данясення Божага слова да сэрцаў людскіх, выхавання рэлігійнай талерантнасці і рэалізацыі ідэй полікультурнай і элітарнай адукацыі ініцыятыўная група з ліку прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі лічыць неабходным***

**СТВАРЭННЕ КАТАЛІЦКАЙ СІСТЭМЫ СКРАЗНОЙ (НЕПАРЫЎНАЙ) НЕДЗЯРЖАЎНАЙ АДУКАЦЫІ (ДЗІЦЯЧЫ САД - ГІМНАЗІЯ, ЛІЦЭЙ - ВНУ).**

**Першы крок у згаданым кірунку — стварэнне БЕЛАРУСКАГА КАТАЛІЦКАГА УНІВЕРСІТЭТА,**

які дасць магчымасць атрымання сучаснай еўрапейскай вышэйшай адукацыі (спецыяльнасці — "тэалогія", "катэхізацыя", "філасофія", "філалогія").

Высокая якасць падрыхтоўкі спецыялістаў будзе забяспечвацца выкладчыцкай працай вядомых вучоных краін Еўропы, Беларусі.

Выкарыстанне заходніх мадэляў адукацыі і вывучэнне замежных моў, супрацоўніцтва з аналагічнымі навучальнымі ўстановамі Заходняй Еўропы паслужаць гарантыяй працаўладкавання як на Беларусі, так і за мяжой.

Сфера дзейнасці выпускнікоў — у касцельных структурах, у рэдакцыях, выдавецтвах, у дзяржаўных арганізацыях у якасці рэферэнтаў, спецыялістаў па справах рэлігій, у сістэме адукацыі і навукі і г. д.

Маючы Блаславенне і падтрымку Яго Эмінэнцыі шанаванага Ксяндза Кардынала Казіміра Свёнтэка і каталіцкага касцёла на Беларусі ў цэлым, *чакаем ад усіх зацікаўленых гэтым праектам канструктыўных прапаноў, канкрэтных ідэй (у частцы фінансавання, структуры, арганізацыі такой навучальнай установы і інш.)*

*на адрас:* ***220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, Інстытут Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, сектар філалогіі, Любоў КАНАПЛЯНІК, тэл. 222-60-59).***



**У калекцыі з 3 700 марскіх ракавін гамяльчанкі-пенсіянеркі Лідзіі МАЛАХАВАЙ з'явіўся незвычайны экспанат — рыба-шар.**

* * *

**На чарговай выставе ў Віцебскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці былі прадстаўлены маляваныя дываны Марыі Ларынай, вырабы з лазы Ніны Рабунскай, вышыўка Таццяны Навічковай і разьба па дрэву Анатоля Быкоўскага.**

**НА ЗДЫМКУ: Марыя ЛАРЫНА і яе работы.**



**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 668.**
**Падпісана да друку 7.5.1997 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**